Перасылка аплачана рычалтам

Цана асобнага нумару 10 гр.

# БЕЛАРУСЬ ПРАЦЫ

Орган Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыны.

№ 3 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Баровая 7-а, 2 | ВІЛЬНЯ, 18-га сакавіка 1934 г. | Выходзіць непэрыёдычна | ГОД I

## Беларуская вёска—на фронт саматужна-вызвольнае працы!

Хочам ці ня хочам, а жыць мусім, бо жывём. Хочам жыць так, як павінен жыць і жыве кожны вольны чалавек, г. зн. у такіх абставінах, пры каторых можна будзе безперашкодна задаволіць усе свае духовыя і натуральныя патрэбы. Гэтак жыць можна толькі тады, калі народ мае сваю культурную і нацыянальна-палітычную незалежнасьць. Зусім у іншых абставінах жыве сяньня вёска беларуская. Пануе ў ёй безпрасьветная цемра і культурна-нацыянальная нясьведамасьць, дзякуючы каторым беларускую вёску кожны выкарыстоўвае як толькі хоча і вёска супрацьставіцца гэтаму ня ўмее і ня можа. Жыцьцё становіцца не лягчэйшым, але што дня цяжэйшым. Вёска сяньня ўжо ня мае магчымасьцяў нават дзеля заспакаеньня сваіх найбольш неабходных патрэбаў. І з гэнага жудаснага палажэньня трэба шукаць выхаду, трэба стаць на нейкі шлях дзеля здабыцьця лепшага заўтра. Усе мы згаджаемся і разумеем, што найгалаўнейшай прычынай бяды, зьдзеку і няволі ў беларускай вёсцы, зьяўляецца якраз яе культурная і нацыянальная нясьведамасьць, яе цемра. Гэта нам гавора, што нашым баявым заданьнем павінна стацца справа барацьбы з успомненай нясьведамасьцю і цемрай. І мы іх мусім за ўсялякую цану і як найхутчэй перамагчы. У гэтай рабоце беларускай вёсцы ніхто не дапаможа, бо яе цемра для шмат каго ёсьць зьявішчам патрэбным, і таму тыя гэную цемру нашай вёскі будуць імкнуцца яшчэ больш паглыбіць, а імкненьню вёскі да культурна-нацыянальнага вызваленьня — перашкодзіць. Словам, мы павінны раз назаўсёды зразумець і запамятаваць, што ў тэй рабоце мусім рахаваць выключна толькі на свае сілы і ахвяры, што ратунак і лепшае заўтра змогуць выйсьці толькі з-пад распаленых мазалёў нашых уласных далоняў. Напатыкаючы ў гэтай рабоце на робленьне нам розных перашкодаў, мы не павінны з гэтай прычыны бязьдзейна енчыць, але мусім як мага хутчэй гэныя перашкоды неяк перамагчы ці абмінуць і няўхільна ісьці наперад. Ізноў-жа, у гэным няўхільным поступе наперад мы павінны памятаць, што правы на жыцьцё ў лепшым і вольным заўтры не даюцца, але здабываюцца. Мы бачым, што праз сотні гадоў нашы прадзеды і бацькі дамагаліся справядлівасьці енкамі ды стогнамі і аднак гэтым сьвет не расчулілі, ніхто ім не дапамог, а мы, дзякуючы іх мляўкім енкам, радзіліся сынамі няволі. Словам, на сьвеце ня існуюць нейкія дабрадзеі, якія займаліся-бы раздаваньнем правоў на лепшае і самастойнае жыцьцё. Здабываецца яно зусім падобна да таго, як скамянелым мазалём і горкім потам упорыста і няўхільна, крок за крокам, гараюцца паросшыя дзірваном палеткі. І ніякія тут сьлёзы, нараканьні і ляманты-пратэсты датуль не памогуць, пакуль ня прыдзе на помач з зацятымі зубамі ўпор і мазоль. Вось-жа, беларуская вёска, здабываючы лепшае заўтра, павінна сапраўды яго здабываць, але не бязьдзейна вынчываць.

Тым, што будуць гаварыць нам, быццам усё гэта толькі прыгожыя словы, быццам у жыцьці практычным яны разаб'юцца аб сілу розных уладаў і паліцыі, адкажам славамі пагарды, бо тыя, што будуць так гаварыць, гэта будуць людзі няздольныя да працы, ня маючыя гарту волі і амбіцыі. Мы-ж бачым, як сотні нашых сялян, не шкадуючы здароўя, часу і грошай, не баючыся паліцыі і вастрогаў, упорыста займаюцца вырабам самагонкі, як узноў сотні нашых сялян сьляпіцаю лезуць у падпольныя чырвона-маскоўскія КПЗБ, таксама не баючыся паліцыі і вастрогаў, трапляючы за гэта няраз і на шыбеніцы. Сотні сялян маюць адвагу, пакінуўшы на шчасьце лёсу бацькоў, жонак і дзяцей, перабягаць пад сьвісты куляў ва ўсходні „рай", каб праз колькі дзён пазьней, з яшчэ куды вялікшай небясьпекай для жыцьця, вяртацца з таго „раю" назад, ісьці гэныя перабегі адпакутоўваць у вастрогах. Сотні сялян, асабліва вясковая моладзь, не шкадуюць грошай і часу на гульні ў карты ды п'янства, ня чуюць страху перад карай за братабойчыя разбоі, а часта і забойствы. І гэткіх прыкладаў можна прывесьці шмат. Вось-жа, калі на гэнае безкарыснае і забойчае марнаваньне сілаў і энэргіі хапае беларускай вёсцы грошай, часу, адвагі і ўпору, то толькі трэба ўсе гэныя магчымасьці перанесьці і прынесьці ў ахвяру для справы больш сьвятой, для справы свайго культурнага і нацыянальнага вызваленьня.

Сьцьвердзіўшы тое, што беларуская вёска гібее ў ціскох цемры, што дзеля здабыцьця вольнага і лепшага заўтра трэба перамагчы сяньняшнюю нацыянальную і культурную цемру беларускай вёскі, што ў гэтай рабоце можна пакладацца толькі на самых сябе — свой саматужны высілак, што ў гэтай рабоце мусім ісьці шляхам здабываньня, але не бязьдзейным вынчываньнем, што для гэтай работы мы можам і павінны знайсьці ў самых сабе патрэбныя сілы і ўпор, — мы мусім пазнаць канкрэтны плян канкрэтнай, саматужна-вызвольнай працы, магчымай у сяньняшніх абставінах. Да распрацоўкі і выконываньня гэнага пляну мы павінны прыступіць яшчэ сяньня.

1. Кожная вёска павінна ствараць актыў працы. Калі ёсьць у вёсцы нейкая беларуская арганізацыя, або, калі яе няма і няма надзеі на здабыцьцё яе, некалькі найбольш дзейных грамадзян павінны ўзяць у свае рукі кіраўніцтва ў працы над выкананьнем ніжэй зьмешчанага пляну. Гэткі актыў працы ня толькі кіруе, але перадусім запалам і ўдарніцтвам сваей работы павінен натхнуць да яе ўсю грамаду.

2. Перад приступленьнем да працы актыў вясковай грамады павінен падлічыць свае рэальныя сілы і канкрэтныя магчымасьці, распрацаваць падрабязна плян найбліжэйшай работы на падставе тут зьменшчанага пляну, распадзяліць паміж сабой функцыі працы і тады ўжо цэлай парай прыступіць да работы. Перад ніякімі перашкодамі бязьдзейна не запыняцца, але іх перамагчы або часова немагчымае падмяніць магчымым і няўхільна ды ўпорыста ісьці наперад.

3. Накіраваць усе высілкі, каб у вёсцы была абавязкава заложана беларуская культурна-асьветная або ўспамагаўча-каапэратыўная ці сельска-гаспадарчая арганізацыя. Калі гэтага ніякім чынам выканаць ня ўдасца, актыў павінен неадкладна сьпісацца з аднэй з ужо існуючых беларускіх арганізацыяў. Калі ў вёсцы існуе нейкая небеларуская арганізацыя, актыў павінен туды накіраваць грамаду вёскі і кіраўніцтва ў тэй арганізацыі пераняць у свае рукі.

4. У кожнай вёсцы павінна існаваць бібліятэка. Калі ня можна здабыць зацьверджаньне на закладзіны публічнай бібліятэкі, актыў зьбірае па вёсцы грошы, выпісывае кніжкі і даручае іх асобе даверанай. З гэнай прыватнай бібліятэкі павінна карыстацца ўся грамада вёскі.

5. Актыў вёскі павінен згуртаваць каля сябе ўсіх граматных і ў баявым парадку прыступіць да вывучэньня старых і маладых чытаць ды пісаць гражданкай і лацінікай. У тым-жа баявым парадку правесьці вывучэньне найлепшых вершаў беларускіх паэтаў, вывучэньне беларускае гісторыі і гісторыі беларускае літаратуры. Адначасна з гэтым, добра пазнаць прыклады барацьбы за сваю незалежнасьць народаў літоўскага, маскоўскага, польскага, украінскага, чэхаславацкага і інш.

6. Актыў вёскі павінен абвесьціць двугодку, падчас каторай трэба імкнуцца, каб уся грамада вёскі вывучылася правідлова гаварыць беларускай літаратурнай мовай, каб затым усюды гаварыць толькі ёю. Падчас гэнай двугодкі вясковая моладзь павінна абавязкава навучыцца пяяць беларускія нацыянальныя і рэлігійныя гымны, агульна ведамыя беларускія песьні, навучыцца скакаць беларускія нацыянальныя танцы, як лявоніху, юрку і інш. У гэты час актыў павінен правесьці шырокую акцыю навароту вёскі да сваей нацыянальнай вопраткі-вышываных кашуль, паясоў, спадніц, сярмяг і інш. Сярод кабет павінна быць наладжана спаборніцтва за выкананьне найпрыгажэйшых узораў вышываньня і вырабу ўзорыстых посьцілак, абрусоў, ручнікоў і інш.

7. Кожная вёска павінна выпісаць, зламжыўшыся грамадой, прынамсі хоць адну беларускую газэту ці часопісь, калі няма магчымасьці, каб беларуская газэта была ў кожнай хаце. Грамадзкім абавязкам і наказам годнасьці павінна быць пачуцьцё неадкладнага аплачываньня газэты. Актыў павінен навучыць вёску карыстацца беларускай газэтай з найбольшым для яе пажыткам. Прачытаўшы газэту, трэба прадумаць прачытанае, супольна агаварыць справы незразумелыя і сумліўныя, паведаміць аб зьмесце газэты непісьменных, а газэту перадаць тым,

(Працяг на 2-ой сатр.).

## Нацыяналістычны рух у БССР.

Белнацыяналістычныя настроі ў Сав. Беларусі разрастаюцца з кожным днём, ахапляючы сабой дзяржаўныя і гаспадарчыя інстытуцыі, школы і фабрыкі, камсамол і нават саму КП(б)Б, работнікаў і сялянства. Падпольная Нацыяналістычная Грамада, карыстаючыся вялікім падтрыманьнем усяго насельніцтва БССР, вядзе рашучую барацьбу з чырвонамаскоўскімі тыранамі пры помачы сталага зрыву сельска-гаспадарчых пляноў працы, пашыраньня сабатажу і нішчаньня прыладаў працы, распашыраньня процімаскоўскай нацыяналістычнай літаратуры. У сувязі з гэтым адбыліся па ўсёй БССР масавыя арышты, аднак, з увагі на праводжанае сьледзтва, прозьвішчы арыштаваных трымаюцца ў таямніцы. Падчас тых арыштаў у Менску было знойдзена некалькі сот кіляграмаў нацыяналістычнай літаратуры.

Рэспубліканская Камісія па чыстцы КП(б)Б праводзіць сярод сваіх сяброў вострае сьледзтва, якім ахоплены даслоўна ўсе партыйныя раёны БССР. Гэтак у Менску ў працягу толькі двох тыдняў інтэрнавана 400 камуністаў-беларусаў, у Барысаве—100, Магілёве — 74, Бабруйску—70, Полацку — 70, Слуцку—60, Крычаве—52, Прапойску—33, Чэрыкаве—32, Віцебску—30, Оршы — 28, Лепелі — 24 і г. д.

Апошнімі днямі акцыя чысткі і арыштаў значна пасілілася, а гэта сувязі з тым, што ў Віцебшчыне сканцэнтравана шмат войска.

## Студэнты беларусы ў Варшаве.

Як мы даведываемся, у сувязі з апошнім процібеларускім паходам у БССР, сярод беларускіх студэнтаў у Варшаве зазначыўся пэўны разлом. Справа ў тым, што яшчэ данядаўна Саюз Беларускіх Студэнтаў у Варшаве быў тэй арганізацыяй, сябры якой былі вялікімі прыхільнікамі чырвонамаскоўскіх парадкаў у БССР і іх уплываў у Зах. Беларусі. Вось-жа, сяньня тыя настроі пачалі зьмяняцца на некарысьць чырвонае Масквы, хоць як гэтаму і несупрацьстаўляюцца розныя жыдкі-палітрукі. Характарна і тое, што сябры ўспомненага Саюзу пачалі навязываць больш бліжэйшыя зносіны з гадунцамі-беларусамі Студыюму Прав.Тэалёгіі ў Варшаве, ад каторых яшчэ нядаўна старанліся. Гэтых апошніх у Варшаве налічваецца сяньня некалькі дзесяткаў, стаяць яны на грунце незалежніцка-нацыянальным.

## Голас беларуса праз радыё.

18 і 19 лютага с. г. б. дырэктар Бел. Гімназіі ў Латвіі прачытаў у Коўне (Літва) праз радыё дзьве лекцыі аб справе беларускага адраджэнскага руху. Выказаныя думкі былі абмежаваны, з увагі на мейсца іх чытаньня.

# Незалежнікі павінны неадкладна стаць у рады белнацыяналістычнага фронту працы.

У той час, як Усходняя Беларусь, гераічна баронячыся перад наступам маскоўскага хіжацтва, штораз ямчэй цэмэнтуецца на грунце незалежніцка-беларускім, штораз сільней даючы ворагу адпор сваімі ўласнымі сіламі,—Беларусь Заходняя яшчэ і да сяньня ня можа стаць на гэны шлях, яшчэ і да сяньня ня верыць у свае ўласныя сілы і сваю перамогу. Прычыны гэнае трагэды крыюцца ў тым, што нашыя павадыры і большасьць інтэлігэнцыі, ідучы па лініі найменшага супору, у змаганьні за беларускую справу абаперліся не на беларускую стыхію, але на тых, хто гэную стыхію імкнецца ўсялякімі спосабамі праглынуць. Праўда, усе гэныя ўгодазапрадажніцтвы праводзяцца нібы пад сьцягам незалежнасьці і ў імя дабра беларускага народу, але ўсапраўды якое вартасьці гэныя сьцягі незалежнасьці і чыё тут дабро асягаецца, даволі лёгка пабачыць, хопіць толькі крыху бліжэй прыгледзіцца гэнаму пазорнаму шкодніцтву, праходзячаму пад знакамі ўгоды паляпафільства, саветафільства і ўкраіна-літвафільства.

Кірунак угадова-палянафільскі зьяўляецца дзецішчам польскае імпэрыялістычнае палітыкі, якая імкнецца народ беларускі здэнацыяналізаваць ды неяк праглынуць. Гэная палітыка добра зразумела, што, каб выканаць вышэй сказанае, трэба за ўсялякую цану не дапусьціць да сцэмэнтоўкі беларускага незалежніцкага імкненьня, не дапусьціць беларускі народ да тварэньня канкрэтных вартасьцяў—падставаў беларускае самастойнасьці, не дапусьціць народ да сьведамае незалежніцка-беларускае аднафронтнасьці. Зразумела, гэная палітыка і тое, што каб ўсё гэна правесьці, то трэба правесьці гэта рукамі беларускімі. Бязумоўна, сярод беларускага грамадзянства знайходзяцца адзінкі безамбітныя, гнаныя хцівым скурніцтвам і прагавітасьцю лёгкай нажывы, якія ахвотна згаджаюцца на ўспомненую работу. Прыапрануўшы на сябе намiткі незалежнасьці, апазыцыі і радыкалізму, гэныя людзі вядуць сваю грабарскую работу пры помачы купляньня людзкое слабасьці, тварэньня розных фікцыйных настрояў і арганізацыяў, пры помачы дэмаралізацыі моладзі і вёскі, а гэта шляхам уцягваньня іх у міжпартыйныя грызьні ды запрадаваньня імі сваіх сумленьняў. Усе гэныя заданьні верна выконвае і сяньняшняя беларуская палянафільская ўгода, згуртаваная навакол свайго органу — газэты „Родны Край“. На старонках яе таксама ўпорыста прапаведуецца пад сьцягам незалежнасьці радыкалізм і апазыцыя. Каму гэная іх апазацыя патрэбна, можа найлепш пасьведчыць ужо хоць-бы наступны факт. Калі папярэдні нумар напае часопісі хоць і даволі мягка, але з аб'ектыўнай рэчовасьцю скрытыкаваў праводжаную акцыю ліквідацыі голаду ў Віленшчыне, то цэнзура за гэта нашую часопісь сканфіскавала. Праз колькі дзён у тэй-жа самай справе „Родны Край“ зьмяшчае куды вастрэйшую крытыку і цэнзура гэтага не канфіскуе. Не зайздросьцім „Роднаму Краю“ яго прывілею і праву на апазыцыйныя выступленьні, адно, гаворачы аб гэтым, хочам лішні раз пацьвердзіць факт—як штучна творыцца апазыцыя дзеля адвярненьня ўвагі беларускага народу ад спраў для яго куды важнейшых, як творыцца ня страшная для дзяржавы апазыцыя дзеля таго толькі, каб не тварыўся сьведамы актыў беларускае пазытыўнае працы. І мы бачым, як гэныя ўгадоўцы стараюцца самі пільна абмінуць кожную пазытыўную працу, стараюцца ўзарваць кожную беларуска-пазытыўную працу (справа беларусізацыі царквы!) і арганізацыю (БСС!) Гэтыя людзі перакупляюць, ня могучы пераканаць, беларускую моладзь, якую сваім скурніцтвам ды апартунізмам заражваюць усё жыцьцё. Маючы тыся-

## Беларуская праца ў Францыі.

Згодна атрыманым намі весткам, у Парыжы ў вышэйшых школах вучыцца некалькі дзесяткаў беларусаў студэнтаў, якія паходзяць пераважна з межаў Зах. Беларусі. Апошнім часам гэныя студэнты пачалі арганізавацца, намагаючыся залажыць беларускую студэнскую арганізацыю. У сувязі з гэтым, у канцы лютага с. г. была зложана ў Міністэрства Нутраных Спраў адпаведная заява. Асабліва дзейна працуе ў гэтым кірунку студэнт Іларыён Роўт, вакол каторага сяньня згуртаваліся ўжо 22 студэнты-беларусы. Лік гэты яшчэ ня поўны, бо з-пасярод беларускай студэнскай моладзі шмат хто яшчэ ня ведае аб працах над залажэньнем бел. студэнскай арганізацыі, іншыя ўзноў знаходзяцца пад моцным уплывам расейскай або польскай эміграцыі, якая імкнецца іх здэнацыяналізаваць.

Беларускую студэнскую моладзь у Парыжы выдатна падтрымлівае, асабліва пад поглядам матэрыяльным, нейкі п. Кастусь Ляпёшка, каторы, выэміграваўшы з пад Баранавіч яшчэ ў часе апошняй вайны, мае сяньня пры вул. St. Martain вялікі магазын з боцікамі.

## 28.000 беларусаў радных.

Паводле афіцыяльна-дадзеных статыстычных, падчас апошніх выбараў у грамадзка-гмінныя самаўрады, у Зах. Беларусі было выбрана 19.150 радных, якія запісаліся беларусамі. 17.445 радных запісалася „паляшукамі“ або „тутэйшымі“. Пад гэнымі назовамі, як ведама, трэба разумець частку ўкраінцаў і частку беларусаў. Вось-жа, калі з апошняе лічбы адкінем палову радных на ўкраінцаў, дык выйдзе, што агулам у самаўрады Зах. Беларусі выбрана блізу 28.000 радных—беларусаў.

Цікава, што ліцьвіны ў гэты час правялі ўсяго толькі 332 радных, ня гледзячы на іх вялікія высілкі ў гэтым кірунку, арганізаванасьць і дыспанаваньне патрэбнымі матэрыяльнымі сродкамі.

## Падтрыманьне для беларускай вёскі.

У канцы лютага сёл. году на паседжаньні Эканамічнага Камітэту Міністраў, была прынята пастанова аб дапамажэньні дробным гаспадаркам у Зах. Беларусі ў веснавых пасевах. З гэнай мэтай прызначана да распадзелу сярод сялянства — 22.500 кв. аўса, 19.500 кв.ячменю і 31.500 кв. бульбы.

Праз колькі дзён пасьля, для нашых зямель прызнана была безваротная пазычка ў суме 982 тыс. зал., якая таксама мае пайсьці на падтрыманьне веснавых засеваў.

## 90 прац. сьвяшчэньнікаў беларусаў.

Гэтымі днямі Віленская Прав. Духоўная Кансысторыя разаслала сярод духавенства Віленскае Эпархіі (ваяв. Віленскае і паветы: Валожынскі, Лідзкі, Стаўпецкі і Шчучынскі ваяв. Наваградзкага) адпаведныя анкеты. Блізу 90 прац. прав. сьвяшчэньнікаў запісалася беларусамі, рэшта палякамі, расейцамі і ўкраінцамі.

Бязумоўна, што значная частка з гэных беларусаў—сьвяшчэньнікаў можа мець розныя засьцярогі, аднак ужо сам факт запісу духавенства ў 90 прац. беларускім, зьяўляецца вельмі паказальным.

Сьвяшчэньнікі - беларусы павінны зразумець, што толькі на паперы запісацца беларусам, гэта яшчэ вельмі мала. Трэба чуцца беларусам душой і думкай, умець для дабра беларускага народу нясьці найвялікшыя ахвяры. Толькі тады кожны будзе ў парадку з сваім сумленьнем.

(Працяг з 1-ай стар.).

хто яшчэ яе ня чытаў. Найвялікшым праступкам павінна лічыцца нішчаньне беларускае газэты пасьля яе прачытаньня.

8. Актыў павінен штогод у сваей вёсцы абавязкава наладзіць публічнае сьвяткаваньне ўгодкаў акту 25 сакавіка—акту Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі; актыў гэты дзень абвяшчае найвялікшым сьвяточным днём вёскі, адпаведна распрацаваўшы праграму яго дня. Найменш раз на тры месяцы актыў павінен наладзіць публічную вечарыну, на якой, апрача п'ескі, павінны пяяцца беларускія песьні, дэклямавацца вершы, грацца музычныя творы і г. д. Калі-ж толькі няма ніякае магчымасьці наладзіць усё гэта публічна, актыў арганізуе па вёсцы прыватныя вечарынкі, на каторых, апрача нацыянальных і іншых танцаў, павінны быць перадусім прадэклямаваны бел. вершы, прапяяны песьні, выступы музыкаў, нехта павінен расказаць штоколечы з бел. гісторыі, з гісторыі бел. адраджэнскага руху і г. д. Плян кожнае такое вечарынкі ўкладаецца згары, за выкананьнем яго сочыць актыў. На гэтых вечарынках гарэлка і карты павінны быць выжануты, грошы празначаныя на іх—актыў зьбірае на куплю кніжак.

9. Найменш раз у месяц актыў павінен наладзіць публічнае чытаньне рэфэратаў на тэмы гістарычныя, літаратурныя, самаўзгадаваўчыя, сацыяльныя, сельскагаспадарчыя, навуковыя і інш. Калі ня можна наладзіць публічнага чытаньня, рэфэраты адбываюцца прыватна, спачатку ў аднэй хаце, дзе можа яго слухаць ня больш дзесяцёх асоб, пасьля ў другой хаце і г. д. Калі актыў ня можа напісаць рэфэрат самастойна, ён павінен зьвярнуцца да аднэй з цэнтральных беларускіх арганізацыяў і зажадаць там напісаньня адпаведнага рэфэрату і яго перасылку.

10. Навязаць зносіны з нейкай сельска-гаспадарчай арганізацыяй і пры яе дапамозе праводзіць акцыю падняцьця сельска-гаспадарчае культуры беларускай вёскі, акцыю палепшаньня ўраджайнасьці яе грунтаў.

11. Наладзіць улетку вялікшыя вандроўкі ці маёўкі, падчас каторых можна чытаць рэфэраты, супольна чытаць і абгаварыць газэтны матэрыял, зазнаямляцца з гісторыяй, абгаварываць плян працы на будучыню, вывучывацца пяяць хорам песьні, дэклямаваць хорам вершы і інш.

12. Прышчапіць грамадзе перакананьне, што ніхто нам у нашым вызваленьні не дапаможа, пакуль мы самі за гэта ня возьмемся. Грамада павінна зразумець, што ўсе мы—гэта нешта адно суцэльнае, адна вялікая беларуская сямейка. Бяда ў хаце аднаго з нас—павінна быць бядой усіх, і наадварот. Дзеля гэтага актыў павінен наладзіць талаку беларускае дапамогі, якая выразіцца ў тым, што ўся грамада сваім саматугам дапамагае тэй хаце, дзе здарыцца нейкая бяда. Кожная грамада вёскі выбірае спасярод сябе прынамсі хоць аднаго найздальнейшага хлапчука і дапамагае яго бацьком даць яму сярэднюю і вышэйшую асьвету.

13. Актыў павінен прыступіць да зьбіраньня грошай, каб пасьля грамадой магчы ў сваей вёсцы збудаваць і залажыць Дом Беларускай Культуры, у якім можна было-бы зьбірацца чытаць кніжкі, газэты, рэфэраты, ладзіць зборкі і вечарынкі, наагул, карысна і з вялікім пажыткам для кожнага адпачыць і павучыцца ў гадзіны вольныя ад працы.

14. Актыў ладзіць штомесяц тыдзень разбудовы культурна-нацыянальнае сьведамасьці грамады, падчас каторага распрацоўка вышэй зьмешчанага пляну працы і бягучага пляну працы актыву павінна весьціся ў асабліва пасіленай форме. За гэты тыдзень кожная хата павінна выказацца як найвышэйшым роўнем культурна-нацыянальнае сьведамасьці, ударніцтвам саматужна - вызвольнае працы. У гэны тыдзень спраўджываюцца вынікі працы за папярэдні месяц, ганьбіцца непрацаздольнасьць і здрада інтарэсам грамады, намячаецца плян працы на наступны месяц, адбываецца выраўнаньне недацяжак і направа недахопаў ці пахібаў.

15. Активы вёскі наладжываюць паміж сваімі грамадамі спаборніцтва. Вёска А выклікае вёску Б і, прыкладам, у працягу двух месяцаў адна другую імкнецца апярэдзіць лікам канкрэтна-пазытыўных вынікаў у саматужна-вызвольнай рабоце. Кожная вёска праз гэты час імкнецца да таго, каб выказацца як мага вялікшай колькасьцю навучаных грамаце, вялікшым лікам выпісаных кніжак, газэт, прачытаных рэфэратаў, зладжаных вечарынак, лепшай знаёмасьцю беларускай гісторыі і літаратуры і г. д. Гэткія спаборніцтвы можа ладзіць вёска з вёскай, гміна з гмінай і г. д.

Вышэй прыведзены плян саматужна-вызвольнае працы не зьяўляецца аканчальна распрацаванай формай гэнае працы. Кожны, прыступаючы да гэтай работы, можа заўсёды плян яе папоўніць ці перарабіць, у залежнасьці ад мясцовых магчымасьцяў і абставінаў. Справа тут, галоўным чынам, у тым, каб нешта карысна-канкрэтнага рабілася дзеля хутчэйшае перамогі сяньняшняе нядолі і цемры, рабілася нешта дзеля лепшага заўтра, каб гэная праца рабілася плянова і сьведама. Бо дакуль мы гэных заданьняў ня выканаем, мы датуль ня зможам узяць у свае рукі лёс сваей будучыні, датуль ніякае палёгкі ў жыцьці беларускае вёскі ня будзе, і гэта нават і ў тым выпадку, калі мы здабудзем сваю дзяржаўную незалежнасьць ці нават, як хочуць можа іншыя, настане тут панаваньне чырвонага „раю“. Тыя, што будуць усё-ж такі бязьдзейна енчыць ды казаць аб немагчымасьці працаваньня, хай сабе бязьдзейна енчаць ды пратэстуюць, нам з гэтымі дробна-мяшчанскімі жабрачымі натурамі не падарозе. Мы павінны ў сваей саматужнай рабоце прайсьці каля гэтых тысяч енчальнікаў з пагардай, бо яны ўжо ня здольны да барацьбы за жыцьцё; мы абапрэмся на тыя сотні, якім хоць і будуць усе перашкаджаць, якія аднак сто раз будуць упорыста вяртацца да свайго, аж пакуль не здабудуць, чаго хочуць. І мы здабудзем свае правы на самастойнае жыцьцё, бо здабыць іх мусім. Вось-жа, беларуская вёска, гэная соль нетраў беларускае нацыі, пойдзе да гэтае перамогі шляхам саматужна-вызвольнага здабываньня.

—·—

# Вызвольна-незалежніцкай барацьбе Усходняй Беларусі—прывітаньне і слава!

Народ Беларускі актам 25 сакавіка 1918 г. быў абвешчаны народам самастойным і незалежным. Не здабылі мы тады аканчальнае палітычна-дзяржаўнае незалежнасьці, але раз кінуты покліч будаўніцтва і імкненьня да сваей дзяржаўнай самастойнасьці, глыбака запаў у душу беларускае нацыі, аднафронтна накіраваў яе на шлях барацьбы за гэтую самастойнасьць.

Народ Беларускі ў межах БССР, знаходзячыся пад крывавым панаваньнем чырвона-маскоўскага імпэрыялізму, ужо з першых дзён абвешчаньня БССР распачаў геройскае змаганьне за сваю самастойнасьць. Чырвона-маскоўскія крывавыя сатрапы ўсімі сіламі намагаліся і намагаюцца адвесьці народ ад яго імкненьня да незалежнасьці. Лепшых сыноў Беларусі пазагублялі ў лёхах чырвона-маскоўскага ГПУ, дзесяткі тыяч кінулі ў пекліщча Саловак і Сібіры, думаючы, што народныя гушчы гэтым стрымаюцца перад імкненьнем да самастойнасьці. Аднак, ані гэныя злачынствы, ані фабрыкі і трактары, якімі намагаліся ашчасьлівіць наш народ, падаптаўшы яго нацыянальную душу,—не запынілі вызвольна-незалежніцкае барацьбы. Наадварот, фронт яе з кожным днём магутнее. Сяньня ўжо вызвольна-незалежніцкая акцыя ахапіла сабой вёскі, мястэчкі і гарады; даслоўна, ужо няма такое мясцовасьці, дзе-б праяў гэнае акцыі ня быў сьцьверджаны. Гэнай акцыяй захоплены сяляне і работнікі, студэнты, урадоўцы, беларускія вайсковыя часткі, беларускі камсамол і КП(б)Б.

Акцыя гэтая выліваецца ў пляннова праводжанай агітацыі, вуснай і пры помачы нелегальнай нацыяналістычнай літэратуры, пры помачы масавага сабатажу і зрыву чырвона-маскоўскіх плянаў, пры помачы падтрымліваньня і хаваньня сабатажнікаў.

Чырвона-маскоўскія сатрапы гэны народны ўздым усімі сіламі імкнуцца апанаваць і неяк зьнявідавочніць, ня даць яму разгалосу. Аднак, усе іхныя намаганьні разьбіваюцца, і нават са старонак афіцыяльнае „Зьвязды" з цэлым размахам выплывае абраз гэнае геройска ўцорыстае і сьведамае барацьбы на жыцьцё і сьмерць. Дзеля ілюстрацыі падаём некалькі гэткіх характарыстычных зацемак з апошніх нумараў менскае «Зьвязды».

1. II. 34 г.

«.. на 25 сьнежня 1933 году плян ільназагатовак быў выканаНы на 79,3 прац..., вінаваты—сяляне. Клімавіцкі раён на 25 студзеня выканаў плян ільназагатовак толькі на 37,2 прац.. У Расонскім раёне пасьля атрыманьня тэлеграмы т.т. Гікала і Галадзеда (кіраўнікі БССР, тэлеграма ў справе пасіленьня працы) барацьба за лён ня ўзмоцнілася, а нават паслабела. З 5 па 15 студзеня тут паступіла 4,4 прац. гадавога пляну, а з 15-га па 25 паступіла 3,8 прац., г. зн. яшчэ менш.... Гэта адносіцца і да раёнаў, як Мсьціслаўскі, Чавускі, Касьцюковіцкі, Чырвонапольскі, якія выканалі яшчэ менш... па ўсёй рэспубліцы... прырост з 5 па 10 студз. складаў 3,8 прац., з 10 на 15 — 2,1 прац., з 15 па 20—1,9 прац .."

Тое самае наглядаецца і ў справе лесавывозкі: «...Адстаючыя леспрамгасы ...Дубровенскі, Быхаўскі, Ушацкі, Клімавіцкі, Крычаўскі, Крупскі, Сенненскі, Лельчыцкі, Петрыкаўскі, Бешанковіцкі, Нараўлянскі, Рагачоўскі і інш... квартальнае заданьне... выканана на загатоўцы будаўнічага матэр'ялу на 23,7 прац., дроў — на 16,2 прац. Гэтыя лічбы б'юць трывогу..."

2. II, 34.

«... Бельсельснабрамонт і Белметалатрэст зрываюць рамонт трактатараў... Майстэрня (Лепель — прып. наша) ў прарыве... новы год спаткала холадна і абыякава... Паводле пляну на 25-га студзеня Лепельская МТМ (майстэрня трактараў і матораў—прып. нашая) павінна была аддаць адрамантаванымі 93 адзінкі... адрамантавана толькі 59, а з адрамантаваных трактараў 14 прызнаны нягоднымі... Прарыву ў майстэрні спрыяе ЦП саюзу рабочых. Смалявіцкая майстэрня павінна адрамантаваць да веснавой сяўбы 37 трактараў і 37 трактарных плугоў. Плян рамонту зрываецца. На 29 студзеня адрамантавана ўсяго 9 трактараў, замест 23, і 15 плугоў. Лістападаўскі і Сьнежаньскі пляны былі сарваны. За гэтыя два месяцы майстэрня адрамантавала ўсяго 4 трактары... Віцебская МТМ выканала ўсяго 23 пр. У 12 майстэрнях (на БССР — прып. нашая) рамонту трактараў адрамантавана ўсяго 56,4 прац...»

4. II. 34 г.

«... Ня гледзячы на рад пастаноў ЦК КП(б)Б і Соўнаркома БССР, дагэтуль няма пералому ў ходзе загатовак і вывазкі лесу... Рад раёнаў і леспрамгасаў у першую чаргу Горацкі, Глускі, Гомельскі, Крычаўскі, Крупскі, Ма-

---

чазлотныя субсыдыі, гэныя людзі твораць дзесяткі фікцыйных арганізацыяў, але ніякім чынам ня годзяцца на стварэньне нечага пазытыўнага. Іх орган — гэна жывое адбіццё іх нічоганяробленьня і прапаганда яго.

Словам, каму гэная іх работа прыносіць карысьці—дагадывацца ня трэба, а колькі яна прыносіць шкодніцтва беларускай справе, то трэба быць сьляпым і глухім, каб гэтага ня бачыць і аб гэтым ня чуць.

Падобна, кірунак угадова-саветафільскі зьяўляецца дзецішчам чырвона-маскоўскае імпэрыялістычнае палітыкі, якая пад наміткай сацыяльнае рэвалюцыі, барацьбы з эканамічным і нацыянальным паняволеньнем народу, гэтак-жа сама імкнецца беларускі народ здэнацыяналізаваць ды неяк праглынуць. І гэная палітыка таксама добра зразумела, што, каб зрэалізаваць свой вялікадзяржаўніцкі плян, трэба за ўсялякую цану не дапусьціць да таго, каб беларускія народныя гушчы ўсьведаміліся культурна і нацыянальна, каб прыступілі да здабываньня падстановаў пад сваю палітычную і эканамічную самастойнасьць. Маскоўская палітыка добра зразумела і тое, што агульны крызыс выкліча ў народных гушчах незадаваленьне, якое якраз і можна будзе выкарыстаць дзеля тварэньня ў народзе апазыцыі, адцягваючы яго ўвагу ад справы тварэньня беларуска-незалежніцкага фронту, што, дзякуючы гэнай апазыцыі і абяцаньням залатых гораў, беларускія масы накіруюцца на розныя процідзяржаўныя выступленьні, што імкненьні гэнай масы будуць скіроўвацца да спалучэньня з маскоўскім Усходам.

І ў гэнай рабоце былі патрэбны перадусім беларускія рукі, і дзеля праводжаньня гэнае работы знайшліся вырадныя сыны Беларусі. Прыапрануўшы на сябе намітки незалежніцтва і мучаніцтва ў ахвярніцкай барацьбе нібы за сацыяльную справядлівасьць, гэныя безамбітныя агенты чырвонае Масквы распачалі праводзіць сваю таксама грабарскую работу. Бароначыся быццам перад „фашыстамі", яны нягодна ўзрываюць кожную беларускую працу і інстытуцыю, правакацыйна накіроўваюць адзінкі больш ідэйныя ў вастрогі, фабрыкуючы гэтым адначасна і мучанікаў і зглыбляюць у народзе апазыцыйную ненавісьць, якая пасьля выліваецца ў розных антыдзяржаўных выступленьнях, або ў бязкарных пратэстах супроць гвалтаў над кітайцамі ці маляйцамі, словам,—усялякімі спосабамі адводзіцца народная ўвага ад справы беларуска незалежніцкае, ад сцэмантоўкі беларуска-незалежніцкага фронту. І ў выніку гэтая грабарская работа разьбівае ўспомнены фронт, калечыць маладую беларускую гэнэрацыю, дэмаралізуе вёску, сьведама зьвялічвае яе дэзар'ентацыю і цемру. Гэныя нягодныя сыны народу з найвялікшым лякайствам абараняюць і апраўдываюць кожны чырвона-маскоўскі гвалт над беларускім народам, усяляк зрываюць кожны беларускі пратэст, накіраваны супроць тых гвалтаў і зьдзекаў.

Словам, каму гэная работа прыносіць карысьці—дагадывацца таксама ня трэба, а і колькі-жа прыносіць шкодніцтва беларускай справе, усе мы бачым.

Кірунак угадова-ўкраіналітвафільскі зьяўляецца, рэч ясная, дзецішчам вялікадзяржаўніцкае украінскае і літоўскае палітыкі. Палітыка украінская ў імя Вялікае Украіны імкнецца да захопу значнае часьціны зямель беларускіх на чале з беларускім Палесьсем. Палітыка літоўская, у імя адбудовы Вітаўтавых межаў Літвы, імкнецца да захопу амаль усяе Зах. Беларусі, а перадусім Віленшчыны, Горадзеншчыны і часьціны Наваградчыны. І гэныя дзьве палітыкі добра зразумелі, што каб дайшло да рэалізацыі гэных плянаў, трэба не дапусьціць на ўспомненых землях да кансалідацыі незалежніцка - беларускага фронту, што трэба цаной стварэньня настрояў апазыцыі і нэгацыі не дапушчаць да стварэньня незалежніцка-беларускіх настрояў, да імкненьня вёскі ў здабываньні на гэных землях пазытыўных падставаў беларускае самастойнасьці, зразумелі гэныя палітыкі і тое, што каб гэныя хіжацкія апэтыты маглі з часам безперашкодна зрэалізавацца, трэба на ўспомненых землях вытварыць атмасфэру прыхільнасьці да Украіны і Літвы, што гэная прыхільнасьць павінна вытварацца беларускімі рукамі, павінна ўзрастаць пад знакам і пад гымны беларуска - літоўска - ўкраінскае дружбы. Зразумела, знаходзяцца беларускія рукі і дзеля гэтае работы. Праўда, робіцца гэная работа таксама пад сьцягам незалежнасьці і ў імя дабра беларускае справы але якое вартасьці гэная незалежнасьць і якое гэнае дабро, можна дагадацца ўжо наперад.

Украіналітвафільская ўгода ужо шмат гадоў як вядзе ўспомненую работу, згуртаваўшыся навакол свайго органу—газэты «Беларуская Крыніца»". І мы бачым, як гэная газэта прававерна прапагуе безкампрамісовую апазыцыю і нягацыю, як пры кожнай магчымасьці накідае масам пагляды неабходнасьці існаваньня беларуска-літоўска-украінскай дружбы, як пяе гэнай дружбе хвалебныя гымны. Яскравы прыклад — апошняе сьвяткаваньне літвінамі ўгодкаў сваей незалежнасьці дэманстрацыйна зрываецца і гэнае сьвяткаваньне не адбываецца. Тымчасам „Бел. Крыніца" па згары загатоўленаму шаблёну, не дачакаўшыся нават самога сьвяткаваньня, шырака расьпісывае, як на ім пяяліся гымны бел.-літ.-укр. дружбе, колькі было выказана пажаданьняў гэнай дружбе, як прыгожа пяяў літоўскі хор і г. д. Ня гледзячы на тое, што нахальства ўкраінскага і літоўскага хіжацтва сваімі прэтэнзіямі сяньня сягае ўжо пад беларускія Баранавічы і Смаленск, „Бел. Крыніца" гэных рэчаў ня бачыць і цынічна прамоўчывае, але за тое, штораз галасьней высьпеўвывае гымны Украіне, а асабліва Літве. У кожным нумары ідэалізуецца нутраное жыцьцё Літвы, штучна вытвараецца ў чытача ўражаньне, што літоўскі гэній ператварыў сваю краіну ў рай, што туды павінна накіроўвацца беларускае імкненьне, што толькі Літва зможа заспакоіць нашыя нацыянальныя патрэбы. Літоўскі імпэрыялізм на ўвесь сьвет крычыць аб сваіх правох на Літву „акупаваную", г. зн. на землі Зах. Беларусі. „Бел. Крыніца« ня ўжывае слова «акупаваная» Літва, але за тое ў кожным нумары піша аб жыцьці „з незалежнай Літвы", гэтым падсоўваючы чытачу думкі аб існаваньні яшчы нейкай «залежнай Літвы». Ды ўрэшце, «Бел. Крыніца» зусім супакойна піша аб працах розных літоўскіх саюзаў вызваленьня Вільні і «акупаванай» Літвы, піша пахвальныя гымны праф. Біржышкам — кіраўніком акцыі вызваленьня «акупаванае» Літвы. Словам, вытвараецца атмасфэра, пры якой нейкія два мільёнчыкі літоўскага народу ў свой час маглі-бы безперашкодна накінуць сваю гэгэмонію 12-мільённаму беларускаму народу. А што да гэтага імкнецца нашая літвафільская ўгода, то яна нават гэтага і ня скрывае. Дзе толькі можна, і ў тэй-жа «Бел. Крыніцы», яна выпрашывае ў Бога, каб як найхутчэй зрэалізаваліся ідэалы В. Кн. Вітаўта, каб як найглыбей яны запалі ў нашыя сэрцы. Ідэалы таго Вітаўта,—які аканчальна разьбіў у свой час палітычную і гаспадарчую незалежнасьць беларускае Полаччыны і Смаленшчыны, які паразганяў з беларускіх княэьстваў беларускіх князёў, насаджываючы туды князёў літоўскіх, які ўпорыста і шырака каляпізаваў ліцьвінамі землі чыста беларускія, які сьведама вынішчыў беларускае рыцарства і князёў, накіраваўшы іх у бой пад Ворсклаю, які здрадаю і гвалтам імкнуўся Беларуска-Літоўскую Дзяржаву ператварыць у Літоўскае Каралеўства,—вось-жа ідэалы гэныя, гэта—ідэалы праглыну беларускага народу. І вось гэткую «незалежнасьць» прапаведуе «Бел. Крын.», прапаведываньне якое ў вольнай Беларусі будзе напэўна карацца куляю ў лоб!

Словам, і тут тое самае можна сказаць, каму гэтая работа патрэбна і каму яна прыносіць карысьці — дагадывацца ня трэба, а колькі ўзноў прыносіць яму шкодніцтва беларускай справе, гаворыць само жыцьцё.

Бачым, што хоць усе гэныя ўгоды крычаць аб сваей незалежнасьці, аб дабры беларускага народу, то фактычна ніякіх карысьцяў для справы беларускае ня прыносяць, справу беларускае незалежнасьці нягодна запрадаюць ворагам нацыі. Хочам верыць, што ўсе гэныя ўгодніцкія засьценкі маюць у сваіх радох людзей ідэйна перакананых у слушнасьці робленае там работы. Аднак, ужо вялікі час, каб яны нарэшце зразумелі тое, што як іх рукамі капаецца магіла беларускаму народу, каб ужо зразумелі, што нарэшце трэба з гэнай грабарскай работай пакончыць і змыць з сябе пляму мімавольнага запрадажніцтва—чэснай і ахвярнай беларуска-вызвольнай працай. Наагул, кожны сьвядомы беларус-незалежнік павінен неадкладна стаць у рады беларускага нацыяналістычнага фронту, духова зьвязацца з незалежніцтвам Усходняе Беларусі, каб супольным высілкам, уласнымі сіламі даць сакрушальны і рашучы адпор ворагам беларускае нацыі. Трэба неадкладна прыступіць да мазолістае работы нацыянальнага ўсьведамленьня беларускае вёскі, да накіраваньня яе на шлях беларуска-незалежніцкай і творча-саматужнай працы. Словам, усе, хто толькі лічыць сябе беларусам-незалежнікам, павінны яшчэ сяньня пасіліць фронт белнацыяналістычны, каб не пасіліваць фронт нацыянальнае здрады сваім няпрыступленьнем да барацьбы з ім. Хто ня з намі, той супроць нас, супроць нашае беларуска-вызвольнае і незалежніцка-самастойнае барацьбы.

—·—

зырскі, Парыцкі, Рагачоўскі, Петрыкаўскі, Чачэрскі і інш., кіраўніцтва якіх нявраз было папярэджана ЦК партыі і ўрадам, прадаўжае ганебна зрываць выкананьне пляну... Кожны з гэтых раёнаў выканаў плян... на 19 — 20 прац., а некаторыя яшчэ менш... Масавая работа ў заняпадзе. Калі ўзяць пытаньне аб невыконываньні норм, то тут, як на далоні, відаць брудная кулацкая работа... Клясавы вораг дзейнічае... угаварывае ня выконываць... нормы і такім чынам зрывае лесавывазку... Масавай работы... не вядзецца... прафсаюзныя арганізацыі працуюць дрэнна, зусім не працуе... камсамол...»

Сабатаж ільназагатовак нязломлен... БССР зьяўляецца найбольш адстаючай на ільназагатоўках ва ўсім Сав. Саюзе і адстае нават ад ганебных тэмпаў ільназагатовак мінулага году. Сабатаж прыняў нябывалыя разьмеры, ільназатоўкі амаль зусім спыніліся. За апошнюю пяціднёўку Асьвейскі раён дае прырост усяго на.. 0,5 прац. Яшчэ горш стаіць справа ў Чавускім раёне... Мсьціслаўскі раён.. ідзе адным з апошніх.. Зусім недапушчальнае адставаньне наглядаецца на неільнаводчых раёнах, асабліва на сыстэме Белкаапсаюза. Раёны, абслугоўваемыя гэтай сыстэмай, зусім спынілі загатоўкі ільнапрадукцыі. І гэта не выпадкова... Дэмабілізацыйныя тэндэнцыі раду цэнтральных і раённых арганізацый адразу знайшлі адбітак у калгасах і вёсках... замест разгрому сабатажу мясцовыя работнікі падтрымліваюць сабатажнікаў..

6.II.34 г

„...У Беларусі з 392 партыйцаў навучальных установ... 124 чалавекі, або 32 прац. зусім ня чытаюць газэт.. Ня сочаць за штодзенным жыцьцём нашай партыі і барацьбой камуністычных партый наагул. У Гомельскай саўпартшколе, гэта ня проста навучальная ўстанова, а савецкая партыйная школа,— з 111 вучняў 60 прац. газэт ня чытаюць... У беларускай арганізацыі цэлы рад нават рэспубліканскіх органаў (Урад БССР, Народныя Камісарыяты, установы на чыстцы Камуніст. Партыі і г. д. — прып. нашая) запоўнены нацыяналістамі... людзьмі чужымі партыі“...

8.II.34.

„...Леспрамгасы БССР закончылі студзень месяц з вялікім прарывам.. толькі 9 леспрамгасаў з 43... выканалі заданьне. Рамонтная кампанія (трактараў—прып. нашая) на БССР праходзіць зусім не здавальняюча... На люты адрамантавана — 43,6 прац... на сыстэме Каркамсаўгасаў плян выканан толькі на 32 прац... Уваравіцкая МТМ замест 14 трактараў... адрамантавала толькі 2. Завод „Адраджэньне“ (Магілёў) не адрамантаваў ні аднаго трактара... *Злачыннае ашуканства партыі і дзяржавы не сустракае адпору ні збоку трэстаў, Саўгаснаба і НКСаўгасаў... Белметалтрэст ня прыцягвае да адказнасьці канкрэтных насьбітоў зла* (падкрэсьленьне „Зьвязды“)“

9.II.34 г.

„... Белсельснаб і Белметалаб‘яднаньне зрываюць выпуск запасных частак (у сувязі з гэтым рэдакцыя „Зьвязды“ заклікае зарэагаваць на гэта ЦКК КП(б)Б і пракуратуру—прып. нашая)... Прычынай зрыву ільназагатовак зьяўляецца... недастатковая барацьба з кулацкім сабатажам... Тэмпы ільназагатовак з пяціднёўкі ў пяціднёўку зьніжаліся, а ў пачатку лютага паступленьні ільнавалакна на склад зусім спыніліся...

... Белторф (эксплёатацыя торфу — прып. нашая) выканаў сваю праграму... на 60 прац... катастрафічна стаіць справа па здабычы фрэзернага торфу. Плян здабычы за 1932 г. быў выканан Белторфам на 74 прац., у 1933 г.—на 14,6 прац...

... Белкаапсаюз зрывае закупкі хлеба... да 1 лютага... пляну выканана 5 прац.... дзесяткі раёнаў... далі ад 0,4 да 1,3 прац.“.

10.II.34 г.

У справе паставак Ленінграду мяса — чытаем: „...плян адгрузкі мяса выканан па БССР да 5 лютага толькі на 20 прац... ёсьць раёны, якія яшчэ ня выканалі ні аднаго прац. заданьня. Гомель даў толькі 5 прац., Магілёўскі раён замест 400 тон адгрузіў у студзені толькі 40 тон... Жлобінскі РК і РВК адмовіліся пасылаць на вёску ўпаўнаважаных па мясапастаўках... Мяса Ленінграду ня грузіцца... Пасьпех можа быць забясьпечаны толькі пры ўмове рашучага ўдару па сабатажу паставак, па агітацыі супроць здачы мяса...“

У справе веснавой сяўбы: „... які-б участак вы ні ўзялі, усюды сустрэнеце прарывы... насенныя фонды не засыпаны...“

.... Калгас „Кліч Волі“... з 30 рабочых коняй—25 выведзены са строю... вінаватага знайсьці нельга... але калі праўленьню і ўдаецца выкрыць вінаватага, то ўсё роўна ніякіх мераў узьдзеяньня ня прыймаецца... Карыстаючыся прытупленьнем пільнасьці з боку партарганізацыі клясавы вораг... антысавецкія элемэнты, прабраліся ў калгасы... і вядуць там падрыўную работу... У калгасе „Чырвоны Кастрычнік“... калі новым старшынёй быў выбраны... чырвонаармеец — камуніст... то сустрэлі яго там у штыхі... якое-б ён мерапрыемства ня высунуў... імкнуцца ўсімі сіламі сарваць... Падрыхтоўка нізавых калгасных кадраў зрываецца... патрэбна мабілізацыя... мас на барацьбу з... ворагам, на барацьбу за бальшавізацыю... гэтай барацьбы якраз няма.“

11.II.34 г.

„... Віцебская машынатрактарная майстэрня... працуе дрэнна.— На чале стаялі кулацкія агенты.. Гэта група на працягу 3 месяцаў шкодніцка зрывала рамонт.. з адрамантаваных 40 матораў 35 былі няпрыгодны і патрабавалі паўторнага рамонту... Пры новым кіраўніцтве... тэмпы працы не нарастаюць, а наадварот—зьмяншаюцца... за пятую пяціднёўку студзеня было выпушчана з рамонту 5 матораў, за шостую толькі 2, а за першую пяціднёўку лютага адзін матор і да... другой пяціднёўкі ня выпушчана ні аднаго матора.., на заўвагу... што з такімі тэмпамі плян... ня будзе выканан... адказваюць: ну і што-ж, складзём акты аб невыкананьні рамонту... Аб ударніцтве і сацспаборніцтве гаварыць ня прыходзіцца... З 80 чалавек рабочых... толькі 5 зьяўляюцца ўдарнікамі.. праверыўшы аказалася, што і гэтыя 5 чалавек ня выконываюць свой плян... рамонт трактараў (Мазырскага раёну) зрываецца.. масавая работа сярод рабочых не праводзіцца... адсутнічае сацспаборніцтва і ўдарніцтва..

Аршанская кантора (Мясакамбінату) у студзені замест 6017 цэнтнараў жывёлы дала толькі 1027, Касьцюковіцкая з 1552 цэнт. —269 цэнт., Крычаўская з 930-125... такое-ж становішча з Рагачоўскай і Лепельскай канторай. Барысаўская зусім нічога за студзень не дала. Сацспаборніцтва на мясакамбінаце не разгорнута... На паперы лічыцца 170 ударнікаў, з агульнай колькасьці 500 рабочых.. Работа лепшых ударнікаў... не распаўсюджываецца сярод рабочых. У Гомельскім мясакамбінаце... на чале кіраўніцтва сталі сабатажнікі... якія вялі сьвядомую палітыку зрыву ўсей работы...

13.II.34 г.

„.. Агітацыя за масавы забой жывёлы.. засьмечанасьць калгасаў кулацкімі элемэнтамі.. усё гэта нанесла вялікія страты жывёлагадоўлі... У Лепельскім раёне загінула 60 прац. парасят, у Гомельскім—53 прац. і Тураўскім — 50 прац... У Лёзьненскім раёне загінута 100 прац. студзеньскіх апаросаў.. На Гомельшчыне буйнай рагатай жывёлы зьменшылася на 12,5 прац., авечая — на 62,7 прац... ня лепшае становішча Рэчыцы, Жлобіна, Слуцка, Бабруйска, Чашнікаў і інш...

...Ход мабілізацыі сродкаў (нутраная пазыка, узнос на дзяржаву, самаашчаднасьць — прып. нашая) ў студзені г. г. выклікае трывогу... Плян дабрахвотных плацяжоў... выкананы на 16,8 прац.... узносы па пазыцы—на 12 прац.“.

19. II. 34.

«... Раёны яшчэ не завяршылі засыпкі насенных фондаў... Раёны Асьвея, Бешанкавічы, Чашнікі, Мсьціслаўль і інш. самым агідным чынам зрываюць дырэктывы партыі і ўраду аб засыпцы насенных фондаў... На 5 лютага ачышчана ўсяго 30,3 пр. насеньня... Гэтае адказьнейшае заданьне партыі і ўраду таксама зрываецца. Рад раёнаў... не прыступіў да ачысткі насеньня зусім... Наркамдзел спагадае злосным зрыўшчыкам падрыхтоўкі да веснавой сяўбы... Плян вывазкі гною на БССР на 5 лютага выкананы усяго на 4,7 прац.... Раёны Асьвейскі, Расонскі, Сіраціенскі, Крупскі, Мухавіцкі, Клімавіцкі і інш. нават не прыступілі да вывазкі гною... Такіх раёнаў налічваецца каля 30... Зрыўшчыкі падрыхтоўкі да сяўбы і тут застаюцца непакаранымі.. У Мсьціслаўскім, Гарадоцкім і Клімавіцкім раёнах рамонт інвэнтара нават не начаты... Асабліва пагражаючым зьяўляецца становішча з падрыхтоўкай конскай цягавай сілы... Колькасьць слабасільных коняй (сабатажнікі выведзеных са строю — прып. нашая) у паасобных раёнах налічваецца тысячамі..

... З 23 студэнтаў камуністаў (ВПІ) ні адзін ня змог правільна адказаць на пытаньне аб рашэньнях Пленума ЦК КП(б)Б па нацыянальнаму пытаньню.. Матэрыялы XVII зьезду ВКП(б) многія нават і ня чыталі... З 23 чал. I і II курсу газэты чытаюць 9 чалавек... гэтыя абураючыя факты праходзяць без рэагаваньня з боку партарганізацыі... лічыцца гэта нармальным зьявішчам..»

20.II.34 г.

„.. Кулацкія элемэнты, контрэвалюцыйная нацдэмаўшчына ў сваей барацьбе... накіравалі ўдар па жывёлагадоўлі... Кулацкія недабіткі... прабраліся ў калгасы, у сьвінагадоўчыя фермы, накіравалі сваю шкодніцкую дзейнасьць на скарачэньня пагалоўя сьвінаматак... у радзе раёнаў падзёж апаросаў даходзіць да 100 прац....

... Райаддзяленьне Загацільна ня прыцягвае да судовай адказнасьці злосных сабатажнікаў, а ўслужліва падтрымлівае іх... Парткіраўніцтва... не прыняло належных мер для разгрому сабатажа і ліквідацыі ганебнага прарыву... (У Бабруйску—)... у раёне пануе поўнае зацішша, ні ў горадзе, ні на пэрыфэрыі падрыхтоўка да сяўбы зусім не адчуваецца... бязтурботна, безадказна ў Бабруйску адносяцца да насенных фондаў... на ўсе гэныя агіднасьці у раёне пануе поўная самасупакоенасьць...

... Гомельскі Малакопромтрэст... проста спачувае зрыўшчыкам падрыхтоўкі да вясны...“.

# Апошнія весткі.

✕ Нацыяналістычны рух ахапляе сабой штораз новыя народы. У Англіі апошнімі часамі таксама шпарка і шырака разрастаецца новазаложаная партыя нацыяналістаў. На чале яе стаіць інж. Мослей. Сябры гэнай партыі згрупаваны ў спэцыяльныя штурмовыя аддзелы, партыйнай адзнакай якіх зьяўляецца чорная кашуля. Партыя гэная, стоячы на грунце нацыянальна-сацыялістычным, вядзе рашучае змаганьне з камунізмам і дробнамяшчанствам ангельскага парлямэнтарызму. Кругі ўрадовыя гэным зьявішчам вельмі занепакоеныя, робяць у сувязі з гэтым розныя захады, аднак пад сьцяг нацыяналістычнага фронту наплывае кандыдатаў штораз больш і больш.

—·—

✕ На апошнім зьездзе камуністычнай партыі ў Маскве мела месца надзвычай характарнае зьявішча. Як ведама, цэнтральны камітэт камуністычнай партыі выбіраецца пры помачы тайнага галасаваньня. Вось-жа, пры апошніх выбарах у гэты камітэт, пасьля аблічэньня картачак з прозьвішчамі выбраных, аказалася, што найбольш галасоў атрымаў Калінін. Сталін, якому падчас зьезду пяяліся царскія гымны, надаваліся там яму тытулы „вялікага“, „гэніяльнага“ „сталёвага“ і інш., — знайшоўся... толькі на трэцім месцы. Правая рука Сталіна — жыд Кагановіч знайшоўся аж на 15 месцы. Усё выклікала зразумелы перапалох. Падрабязныя вынікі гэтых выбараў былі пададзены да ведама толькі прэзыдыюму зьезду у той час, як сам зьезд аб гэтым ня быў паведамлены.

—·—

✕ У палсве лютага с. г. у Аўстрыі адбыліся крывавыя завирушэньні. Аўстрыйскі канцлер Дольфус, баронячы сваю бацькаўшчыну перад пасяганьнем на яе незалежнасьць Нямеччыны, выдаў загад зьліквідаваньня сацыялістычна-работніцкіх арганізацыяў, знаходзячыхся пад уплывам Гітлера і праводзячых насупроць волі ўсяго народу procідзяржаўную дзейнасьць. Успомнены загад канцл. Дольфуса выклікаў аружны спраціў з боку сацыялістаў. Дайшло ўрэшце да таго, што па ўсей Аўстрыі распачаліся фармальныя баі, у якіх прымалі ўдзел вайсковыя часткі. Сацыялістычна-гітлераўскія дамы абстрэльваліся з кулямётаў, па вуліцах разьяжджалі браневікі, стаўленыя барыкады былі нішчаны пры помачы поўзаючых танкаў. Аканчальна перамог канц. Дольфус, а работнікі паўцякалі ў гітлероўскую Нямеччыну. У выніку гэных баёў, было звыш 2000 забітых і некалькі тысячаў раненых. Гітлер зрабіць Аўстрыі нічога ня можа, бо, дзякуючы ўмелай палітыцы Дольфуса, за Аўстрыю заступіліся дзяржавы вялікшыя, як Італія і інш.

—·—

✕ У канцы лютага с.г. ангельскія безработныя зладзілі марш на Лёндан. Акцыя гэная была ўсяцэла заінсьпіравана чырвонай Масквой і насіла характар выключна дэманстрацыйны, што дакумэнтальна сьцьвердзіў прэм. Мак-Дональд.

Ня лішнім тут будзе адцеміць і тое, што кожны безработны ў Англіі атрымлівае дзяржаўную дапамогу, якая месячна выносіць 125 з., перарахаваўшы на нашыя грошы, а некаторыя дык атрымліваюць і па 150 зал. Скажа мо‘ хто, што жыцьцё там даражэйшае, вось-жа якраз наадварот — прыкл., кілё цукру ў Англіі каштуе нешта 20 гр. Напэўна, кожны з нас згадзіўся-б там быць безработным.

*Беларусы!*

*На дзень 25.III.34 г. прыпадаюць*

*16-ыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.*

*Дзень гэты — гэта дзень найвялікшага беларускага сьвята, таму хай кожны з нас яго належна адсьвяткуе!*

**Адказы і Агляд хронікі з беларускага жыцьця ня зьмешчаны з прычын тэхнічных.**

Рэдактар-Выдавец **С. Сарока.**

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.

BIBLJOTEKA w Wilnie im. Wróblewskich 08143